*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 2 (214)

11 студзеня 1995 г.

Кошт — 100 рублёў

**ВЯРХОЎНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ — ГАЗЕЦЕ «НАША СЛОВА».**
Стар. 2—3.

**УДАСКАНАЛЕННЮ — «ТАК», АЛЕ БАРАНІ БОЖА АД РЭФАРМАТАРАЎ.**
Стар. 3.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **4 СТУДЗЕНЯ ЛЯ БУДЫНКА ДОМА ЎРАДА АДБЫЛОСЯ ПІКЕТАВАННЕ Ў АБАРОНУ СВАБОДЫ ДРУКУ.** Не абышлося без арыштаў. Так, быў затрыманы і тут жа асуджаны на 5 сутак старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар Мікола Савіцкі, які быў абвінавачаны ў хуліганскіх дзеяннях. Адзначым, што нават цар Мікалай "крывавы" падобнага ў адносінах да прафесуры сабе ніколі не дазваляў.

❍ ***ЯК УЖО ПАВЕДАМЛЯЛАСЯ, ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ АДБУДУЦЦА 14 ТРАЎНЯ 1995 ГОДА.*** *Белінфарм цікавіўся думкамі вядомых палітыкаў наконт гэтай падзеі. Лідэр Партыі народнай згоды Генадзь Карпенка лічыць, што з-за рэзкага пагаршэння эканамічнага становішча людзей наўрад ці трэба чакаць высокай актыўнасці грамадзян на маючых адбыцца парламенцкіх выбарах. Спадар Карпенка мяркуе, што дэмакратычны блок набярэ 50 працэнтаў дэпутацкіх мандатаў і найбольш у ім будзе прадстаўлены Беларускі Народны Фронт. На думку старшыні БНФ Зянона Пазьняка, ёсць вялікая небяспека, што будучы беларускі парламент акажацца малаздольным, каб стаць ініцыятарам рэформаў. Шанцы БНФ на выбарах, на думку Зянона Пазьняка, вялікія. Лідэр Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Аляксандр Дабравольскі чакае, што значная частка новага парламента будзе прадстаўлена дэмакратычнымі арганізацыямі. З выбраннем Вярхоўнага Савета, лічыць ён, адбудзецца павышэнне палітычнай культуры. Сакратар Беларускай партыі камуністаў Віктар Чыкін думае, што наўрад ці ў парламенце будзе якая-небудзь дамінуючая сіла, якая набярэ больш як 50 працэнтаў галасоў. Ён упэўнены, што пры гэтым левы блок адназначна не прайграе дэмакратам.*

❍ **ДЭПУТАТ СЯРГЕЙ АНТОНЧЫК ВЫСТУПІЎ З ЗАЯВАЙ**, у якой прапанаваў правесці ў пачатку 1995 года агульны сход. Мэта форуму — кансалідаваць грамадства і знайсці шляхі выхаду з крызіснай сітуацыі.

❍ ***СТАРШЫНЯ МІНАБЛВЫКАНКАМА ПЁТР ПЁТУХ, АДКАЗВАЮЧЫ НА ПЫТАННЕ КАРЭСПАНДЭНТА «ЦІ ХВАЛЮЕ ВАС ДАЛЕЙШЫ ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І КУЛЬТУРЫ?», АДКАЗАЎ:*** *«Так. Я мяркую, што сёння са школы і дзіцячага садка трэба выхоўваць у людзей павагу да нашага народа, яго мовы. Я не думаю, што існуючую сітуацыю можна будзе вельмі хутка змяніць, але накіраванасць павінна быць такой».*

❍ **НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ У МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАНА 777 ГРАМАДСКІХ АБ'ЯДНАННЯЎ, З ІХ — 29 ПАРТЫЙ.**

❍ ***11 СТУДЗЕНЯ ЧАКАЕЦЦА ВІЗІТ У МЕНСК ДЖОРДЖА СОРАСА*** *— вядомага філантропа і бізнесмена, заснавальніка сістэмы фондаў Сораса ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Візіт будзе звязаны з падвядзеннем вынікаў работы БФС за мінулы год. Не выключана, што адбудзецца сустрэча Д.Сораса з Прэзідэнтам Беларусі, калі ён не адмовіцца, як гэта зрабіў у мінулым годзе Вячаслаў Кебіч.*

*Мікалай БАРБУК, дырэктар Светлагорскай ЦЭЦ:*

# «Мінуў час, калі беларуская гаворка лічылася прыкметай неадукаванасці»



***— Светлагорск — не беларускі горад, — пачуў я ад знаёмага. — Ім было калісьці мястэчка Шацілкі, якое бальшавікі ператварылі ў шараговы прамысловы цэнтр з савецкай назвай і засялілі яго савецкімі людзьмі. Беларушчыны там не больш, чым светлых гор.***

***У слушнасць яговых слоў я пачаў верыць, ідучы вуліцамі Светлагорска: вуліца Леніна, алея Герояў, манументальныя серп і молат на скрыжаванні дарог, дзве постаці з аўтаматамі — помнік удзельнікам савецкай інтэрвенцыі ў Афганістане...***

***Дарога вывела да будынка заводскай прахадной, і тут я ўбачыў ці не першы ў горадзе надпіс па-беларуску: Светлагорская цеплаэлектрацэнтраль. А яшчэ праз некалькі хвілін я сустрэўся з дырэктарам станцыі Мікалаем Барбукам, размова з якім змяніла маё стаўленне да горада — нашчадка Шацілак.***

— У 1991 годзе была створана Светлагорская гарадская рада ТБМ, — пачуў я ад дырэктара. — У склад рады ўвайшоў і я. І таму не дзіўна, што на нашым прадпрыемстве робяцца крокі да пашырэння кола ўжывання беларускай мовы.

**— Якім чынам гэта рабілася?**

— Перш за ўсё — уласным прыкладам. На дзяржаўнай мове пачалі праводзіцца планёркі, нарады. Ужываліся і адміністрацыйныя меры, тым больш што Закон аб мовах ужо дзейнічаў. Таму ў 1991 годзе быў падпісаны загад аб мерах рэалізацыі Закона на нашым прадпрыемстве. У наступным годзе быў зацверджаны план вывучэння беларускай мовы супрацоўнікамі тэрытарыяльнага энергетычнага аб'яднання. І на электрастанцыі з'явіўся загад аб зацвярджэнні гэтай праграмы. Загады аб рэалізацыі Закона аб мовах былі выдадзены мной у 1993 і 1994 гадах. І яны выконваліся. Адміністрацыя набыла машынкі з беларускім шрыфтам. На прадпрыемстве былі арганізаваны курсы дасканалення мовы на падставе праграмы, складзенай упраўленнем энергетыкі — цяперашнім Міністэрствам энергетыкі.

Калі на іншых прадпрыемствах ужыванне беларускай мовы часцей з'яўляецца ініцыятывай работнікаў, да якой кіраўніцтва часцей абыякавае, дык у нас беларусізацыя пачалася па-іншаму, зверху. Першую групу, якая прайшла моўныя курсы, склалі начальнікі цэхаў, аддзелаў, кіраўнікі ўсіх структур станцыі. Потым прыйшла чарга іхніх намеснікаў, майстроў — людзей, якім непасрэдна падпарадкоўваецца персанал. Дарэчы, падчас правядзення заняткаў нашы выкладчыкі карысталіся метадычнымі распрацоўкамі, друкаванымі ў свой час у «Нашым слове», нават дыктант пісалі з газетнага тэксту.

Акрамя кіраўніцтва ўсіх рангаў, курсы навучання ці, дакладней, дасканалення мовы прайшлі сакратары і аператары тэлетайпаў — гэта было патрэбна для вядзення службовай дакументацыі. З гэтай жа мэтай была зроблена патрэбная колькасць копій даведніка беларускага справаводства, распрацаванага Гомельскім універсітэтам.

На беларускай мове былі аформлены ўсе шыльды, пачынаючы ад назвы прадпрыемства ля прахадной і скончыўшы тэхналагічнымі цэхамі. З мінулага года на дзяржаўную мову пачала пераводзіцца дзелавая дакументацыя, тэхналагічная і тая, што датычыць тэхнічнага навучання, планавай і эканамічнай працы ды стандартныя формы — нават загады аб заахвочванні работнікаў ці пазбаўленні іх прэмій.

**— Для прадпрыемства гэта стварыла нейкія складанасці?**

— Ніякіх. Галоўнае — пачаць, праявіць ініцыятыву. І вось ужо, напрыклад, наш галоўны інжынер піша рэзалюцыі на дакументах па-беларуску, мяняючы сваіх падначаленых не таварышамі, а спадарамі. Таму ў наступным годзе плануем скончыць працэс змены мовы службовай дакументацыі. І ўсе паперы, што будуць сыходзіць ад нас у межах краіны, будуць афармляцца па-беларуску.

**— Ці не чуеце ў сувязі з гэтым Вы нараканняў з боку сваіх работнікаў ці кіраўнікоў іншых прадпрыемстваў?**

— Апошні раз падобныя нараканні я чуў, калі, скончыўшы беларускую школу ў Чэрвені, прыехаў у Менск паступаць у інстытут і быў змушаны перакладаць адказы экзаменатарам з беларускай мовы на расійскую. Але цяпер не скардзіцца ніхто, бо людзі ведаюць: мы жывём у сваёй краіне і нас падтрымлівае закон. Таму, калі праблема мовы і існуе, дык не на нашым прадпрыемстве.

**— А чым выклікана Ваша ёй зацікаўленасць?**

— Я беларус, і ўжо таму не магу быць абыякавым да лёсу свайго народа, яго мовы. Маё становішча кіраўніка дазваляе павысіць яе прэстыж і гэтую магчымасць я выкарыстоўваю. Бо прэстыж мовы — гэта прэстыж народа, яе носьбіта, прэстыж створанай ім дзяржавы.

Тое, аб чым мы гаворым, датычыць нават не мовы, а большага — свядомасці. Таму я і раблю тое, што раблю. Таму я і чытаю вашу газету, «Літаратуру і мастацтва», «Свабоду», «Нашу Ніву». І гэтая свядомасць пашыраецца — гэтыя ж газеты атрымліваюць і аддзелы нашай станцыі, каб іх мог чытаць кожны з 800 работнікаў нашай станцыі, якая, дарэчы, з'яўляецца адной з буйнейшых у Беларусі і працуе як частка агульнакраёвай энергасістэмы.

**— Але ж для адных валоданне беларускай мовай — патрэба, а для іншых — службовы абавязак.**

— Абавязак, але не прынука — гэта вельмі істотна. Людзей нельга прымушаць карыстацца мовай, але можна заахвоціць. Так, наша станцыя дапамагла з рамонтам і абсталяваннем гарадскога беларускага ліцэя, у якім, між іншым, вучацца і дзеці нашых работнікаў. Мы маем вельмі добры дзіцячы садок, выхавацелі ў якім за валоданне беларускай мовай атрымліваюць спецыяльную даплату. Гэта, а не пустыя заклікі да шанавання мовы, надае ёй сапраўдны прэстыж.

**— Сёння пра адраджэнне мовы гавораць пераважна людзі з асяродку творчай інтэлігенцыі. Ці не чуеце Вы заўваг аб непатрэбнасці гэтага з боку Вашых калег-прамыслоўцаў?**

— Мінуў час, калі беларуская гаворка лічылася прыкметай неадукаванасці. Але ж яна ніколі не была манаполіяй пісьменнікаў. Прывяду прыклад, які датычыць непасрэдна маёй працы. Міністр энергетыкі рэгулярна праводзіць селектарныя нарады з кіраўнікамі абласных энергасістэм, і кожны раз я чую, як мае калегі з Гродна і Брэста паведамляюць у сталіцу аб стане сваіх спраў па-беларуску. Нікога гэта не бянтэжыць. Бо словы «мова народа» азначаюць: мова кожнага з нас.

Распытваў **У.ПАНАДА**.
Фота аўтара.

*Жыццё Таварыства*

# Рэвізійная камісія інфармуе

Летась работа рэвізійнай камісіі ТБМ імя Ф.Скарыны канцэнтравалася на кантролі фінансава-гаспадарчай дзейнасці кіруючых органаў Таварыства, на аналізе іх сувязей з рэгіянальнымі арганізацыямі і суполкамі, на праверцы адпаведнасці ўсяго зробленага за справаздачны перыяд Радай і Сакратарыятам патрабаванням Статута.

У фінансава-гаспадарчай дзейнасці камісія парушэнняў не выявіла, што, дарэчы, таксама засведчана і дзяржаўнай падатковай інспекцыяй, якая неадпойчы дэталёва праверала ўсю адпаведную дакументацыю за мінулы год.

Камісія канстатуе, што Радай і Сакратарыятам ТБМ даволі актыўна вялася работа па пашырэнні сувязей з рэгіянальнымі арганізацыямі. Зімі пастаянна наладжвалася рознабаковае ўзаемадзеянне, накіраванае на ліквідацыю крытычных заўваг, выказаных на III з'ездзе. Аб стварэнні новых суполак на месцах газета «Наша слова» аператыўна інфармавала чытачоў у сваёй сталай рубрыцы «Жыццё Таварыства». Рэгулярна праводзіліся пасяджэнні Рады і Сакратарыята ТБМ, што таксама заўжды знаходзіла адлюстраванне на старонках нашай газеты. Сябры рэвізійнай камісіі прымалі ўдзел у абмеркаванні пытанняў, якія працягам мінулага года выносіліся на разгляд Рады і Сакратарыята. Распрацаваны дапаўненні да Статута Таварыства, якія ў будучым павінны стаць нарматыўнымі для дзейнасці рэвізійнай камісіі. Сябры камісіі некалькі разоў выязджалі на месцы для аказання практычнай дапамогі рэгіянальным арганізацыям ТБМ.

Камісія разам з тым адзначае вялікія матэрыяльныя цяжкасці, з якімі зараз сустрэлася Таварыства. Катастрафічна не хапае сродкаў на самыя неабходныя справы, газета «Наша слова» па-ранейшаму зусім не забяспечана выдавецкім абсталяваннем, аргтэхнікай, у новым памяшканні рэдакцыі амаль ужо год нават няма тэлефона, выдавецкая дзейнасць ТБМ адстае ад рэальных патрэб. Таму звяртаемся да ўсіх нашых сяброў з просьбай аказаць пасільную фінансавую дапамогу свайму Таварыству. Гэта будзе садзейнічаць актывізацыі ўсёй работы ТБМ, а значыць, пойдзе на карысць нацыянальнаму Адраджэнню роднай Бацькаўшчыны.

**Мікола ЛАВІЦКІ, старшыня рэвізійнай камісіі ТБМ.**

*У ГАЗЕТАХ*

## Айчына № 3

Напярэдадні новага года «Настаўніцкая газета» парадавала чытачоў чарговым, ужо трэцім выпускам свайго асветніцкага дадатку «Айчына». Ён пачынаецца цікавым допісам у рэдакцыю Івана Говара, настаўніка амаль з саракагадовым педагагічным стажам «Хто ж падрыхтуе энцыклапедыю для вучняў?». Аўтар лічыць, што для выкарыстання сучаснага гістарычнага бяспамяцтва беларусаў трэба ўжо сёння, не адкладаючы справу да лепшых часоў, распачаць выпуск серыі папулярных, усім даступных энцыклапедычных даведнікаў для школьнікаў пад умоўнай назвай «Нашы знакамітыя продкі», «Нашы знакамітыя земляні», ці «Гонар беларусаў». Вельмі блізкімі да згаданага допісу з'яўляюцца меркаванні настаўніка з Кругляншчыны Алега Галаўкова, які, у прыватнасці, адзначае, што сёння кнігарня перапоўнена рускамоўнымі «творамі», дзе галоўныя тэмы — забойствы і секс, а для роднага слова ў дзяржаве не знаходзіцца ні паперы, ні сродкаў. У рубрыцы «Сейбіты на ніве Беларушчыны» на першай старонцы дадатку друкуецца артыкул Аркадзя Нафрановіча, прысвечаны творчасці самабытнага паэта Мікалая Пятрэнкі, які ў канцы снежня адсвяткаваў свой сямідзесяцігадовы юбілей.

Пераважная большасць матэрыялаў на другой — чацвёртай палосах «Айчыны» мае выразную краязнаўчую тэматыку. Увагу чытачоў тут павінны прыцягнуць нататкі намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская мінуўшчына» Святаслава Асіноўскага «Ісці разам. І ў адным накірунку», гістарычны нарыс былога настаўніка Мікалая Аляшкевіча «Семежава», нарыс пісьменніка Алеся Марціновіча «Спірыдон Собаль» і замалёўка настаўніка Віктара Лютынскага «У Тамаша Зана вёсачка ў Беларусі...». Пад рубрыкай «Цікавы суразмоўца» апублікавана гутарка Святланы Хосун з дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, пісьменнікам Адамам Мальдзісам «Ці патрэбны мы ў Еўропе безаблічнымі?».

Як і папярэднія выпускі «Айчыны», гэты нумар дадатка пераконвае, што новае выданне на вачах набывае свой уласны, адметны твар.

## Эх, Муза! Эх, «Рэспубліка»!

Штотыднёвая грамадска-асветніцкая газета «Культура» (№ 51) на тэматычнай старонцы «Адраджэнне мовы — справа дзяржаўная» змясціла адкрыты ліст кандыдата філалагічных навук Сяргея Запрудскага рэдакцыі газеты «Рэспубліка», якая ў верасні мінулага года надрукавала артыкул Музы Тарасевіч «Русскоязычный белорус: нонсенс или норма?». У гэтай публікацыі М.Тарасевіч (пенсіянерка, былы інжынер) безапеляцыйна, але з прэтэнзіяй на бясспрэчную ісціну, напрыклад, сцвярджала, што ў канцы XIV стагоддзя ў Віленскім краі культура была «такая же, как и на Рязанщине. Русская», што руская мова шырока ўжывалася на Беларусі спрадвеку, што вусная народная мова не мае ніякага дачынення да культуры і г.д. С.Запрудскі падкрэслівае, што «с ученым видом знатока» Муза Тарасевіч бярэцца меркаваць пра вышэйшую матэматыку, нават сяк-так не засвоіўшы элементарнай табліцы множання. Праўда, гэта зусім не перашкаджае ёй друкавацца на старонках урадавай, даволі рэспектабельнай газеты «Рэспубліка», якая, дарэчы, адмовілася апублікаваць меркаванні Сяргея Запрудскага — спецыяліста-філолага высокай кваліфікацыі, сябра моўнай камісіі ТБМ імя Ф.Скарыны — наконт згаданага артыкула. Больш чым дзіўную пазіцыю тут занялі журналісты «Рэспублікі», даючы слова самаўпэўненым невукам і разам з тым не дазваляючы даць апошнім адпаведны адпор людзям дасведчаным і аўтарытэтным.

Што да самой Музы Тарасевіч, уже добра вядомай сваёй адкрыта антыбеларускай пазіцыяй (называла беларусаў у друку «несуществующей нацией», а нашу мову — «диалектом русского»), то тут застаецца, бадай, толькі развесці рукамі ды з сумам пакачаць галавой: «Эх,Муза, Муза...»

**М.В.**

*БЕЛАРУСКІ ЧАС У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ*



*На працягу гэтага года Гродзенскай рэгіянальнай мытняй затрыманы кантрабандныя грузы, агульны кошт якіх складае звыш двух з паловай мільярдаў рублёў. Таварамі для незаконнага бізнесу робіцца ўсё — ад трункаў і цыгарэт да зброі і наркотыкаў.*

*Значную частку затрыманых рэчаў складаюць творы мастацтва, у тым ліку і абразы. Ледзьве паспявае мытня перадаць музеям і святыням забраныя падчас спроб нелегальнага вывазу абразы, як паліцы сховішчаў зноў запаўняюцца — і падробкамі, і выдатнымі творамі майстроў розных школ і часоў.*

**На здымку:** намеснік начальніка Гродзенскай мытні **Мікалай Чарняўскі** і інспектар мытні **Іна Таўрэль** дэманструюць затрыманыя абразы.

**Белінфарм.**

*АЛЕ!*

***Калі ў рэдакцыі атрымалі ліст з грыфам Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, кожны пазіраў на яго са своеасаблівым пачуццём, якое нават складана вызначыць. Канешне, аднадушна вырашылі — трэба апублікаваць. Але мусім напачатку ўзгадаць перадгісторыю, каб чытачам быў цалкам зразумелы сэнс дакумента. Гэта адказ на зварот рэдакцыі да Старшыні Вярхоўнага суда даць інтэрв'ю пра тое, як суддзі разбіраюцца ў даволі няпростых, на нашу думку, лінгвістычных паняццях, увасабляючы іх тым не менш у вердыкты. Спачатку недзе па вясне мінулага года, па невядомай прычыне нам адмовілі, мы некалькі разоў тым не меней узнаўлялі сваю просьбу, пакуль нарэшце ў кастрычніку нам сказалі, каб прадставілі свае пытанні ў пісьмовай форме, папярэдзіўшы, аднак: адказы дасць не пан Старшыня. Тым не менш мы разлічвалі залучыць на свае старонкі каго-небудзь з членаў Вярхоўнага суда. Адказ атрымалі ад асобы таксама вельмі паважанай. Але па парадку. Вось пытанні, якія рэдакцыя «Нашага слова» даслала ў канцылярыю Вярхоўнага суда:***

# Вярхоўны суд:

— Дзякуем, што ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь усё ж знайшлі магчымасць прыняць карэспандэнта газеты «Наша слова». Рэдакцыя дамагалася гэтага амаль год. Праўда, хацелася, каб гутарка была з самім панам Старшынёй Вярхоўнага суда Рэспублікі, але ж, відаць, мы не падыходзім рангам? Паміж іншым, не ведаю, ці пагадзіцеся Вы з гэтым, але ў газеты, у тым ліку нашай, ёсць адказнасці, у пэўным сэнсе блізкія да судовых. Суд, калі ён сапраўды народны, а не служыць толькі інтарэсам людзей пры ўладзе, абараняе магчымасці грамадства жыць годна, прыстойна, ну, а газеты, як наша (бо ёсць жа выданні чыста камерцыйныя і нават такія, якія разбэшчваюць людзей, спекулюючь на нізкіх інстынктах), — гэта своеасаблівы форум, канцэнтраванае адлюстраванне думак, поглядаў грамадства, асабліва яго сацыяльна свядомай часткі, якая калі не заўсёды ў поўнай меры і разумее, то інстынктыўна адчувае, што без пэўных умоў, — скажам, без сваёй нацыянальнай адметнасці, у тым ліку мовы, не зможа паўнацэнна функцыяніраваць моцная дзяржаўнасць. А значыць і не будуць належным чынам абаронены правы грамадзян на цывілізаванае жыццё. Ці тут нейкая памылка? Бо даводзіцца ж іншым разам чуць, як некаторыя прадстаўнікі праваахоўных органаў, у тым ліку суддзі, кажуць, што журналісты з іхнімі незалежнымі публікацыямі ў прэсе адно толькі шкодзяць праваахоўнай справе: яны ўсё заблытваюць, яны суб'ектыўныя, яны агалошваюць тайны і гэтак далей.

— Ну, а звярнуцца ў вашу высокую інстанцыю мы ў рэдакцыі палічылі неабходным па дзвюх, па меншай меры, прычынах. Адна з іх — функцыяніраванне Закона аб мовах, а цяпер вось і прыняцце Канстытуцыі, артыкул 17-ы якой надае беларускай мове статус дзяржаўнай. Дарэчы, зусім нядаўна Цэнтральная выбарчая камісія рашуча абараніла гэты статус, прызнаўшы неправамоцнай спробу групы грамадзян ініцыяваць правядзенне рэферэндуму аб магчымасці ўвядзення афіцыйнага двухмоўя. А калі б гэта не зрабіла Цэнтральная выбарчая камісія, то хто іншы змог бы абараніць дзяржаўны статус мовы беларусаў — Пракуратура? Канстытуцыйны Суд? Ці ўрэшце Вярхоўны суд?

— А ўвогуле, у практыцы Вярхоўнага суда даводзіцца сустракацца з дзеяннем (ці наадварот — бяздзейнасцю) Закона аб мовах? Ёсць звесткі, што да гэтага часу некаторыя суддзі не ў стане не тое што весці справу на дзяржаўнай мове, але нават разумець усё, калі яе ўжывае нехта з удзельнікаў судовага працэсу. Наколькі гэта адпавядае практыцы? Ці існуе нейкая сістэма вучобы, скажам, адпаведныя курсы, у тым ліку ў апараце Вярхоўнага суда?

— Нарэшце лінгвістычны, так бы мовіць, блок пытанняў. Выпушчаны ў свет аўтарытэтным выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» юрыдычны энцыклапедычны слоўнік на беларускай мове. У ім ці не ўпершыню даволі ёміста разглядаюцца асноўныя юрыдычныя тэрміны і паняцці, галоўныя прынцыпы розных галін права, канкрэтныя пытанні справаводства са спасылкамі на пэўныя нормы дзеючага заканадаўства, хоць варта было б, на наш погляд, указваць і канкрэтна адпаведныя артыкулы кодэксаў, якімі карыстаюцца суды. Ці стала гэта кніга патрэбнай, настольнай для судовых работнікаў?

— У звязцы з папярэднім яшчэ такое пытанне. Апошнім часам сталі даволі частай з'явай судовыя працэсы аб абароне гонару і годнасці асобы. Прычым дастаецца галоўным чынам журналістам, калі яны друкуюць нешта крытычнае пра начальства. Асабліва тут вызначаўся былы паплечнік Кебіча — дзяржсакратар Данілаў. Ужо анекдоты

АЛЕ!

# апошняя інстанцыя

ўзніклі на гэты конт ды розныя там «крылатыя слоўцы».Але ж каму жарты і смех, а асуджаным журналістам немалыя амаль заўсёды фінансавыя страты. Гэта пры іхняй беднасці, калі не сказаць — жабрацтве. Словам, багатыя і на гэтым багацелі, а бедныя... Што яшчэ цікава: журналістаў абвінавачвалі не ў паклёпе ці ў хлусні, а менавіта ў абразе гонару і годнасці («чести и достоинства»), абвяшчаючы іх цану ў грошах. Цікава пры гэтым, што чымся вышэй рангам быў чыноўнік, тым вышэй аказвалася стаўка. Называюць сумы іншым разам проста незразумелыя для звычайнага чалавека. Як гэта: 9 мільёнаў 999999 рублёў. Здаецца, тут увогуле нейкі здзек з годнасці штрафніка, маўляў, вось я назаву абсурдную лічбу штрафу і ты яе выплаціш як міленькі, каб на ўсё жыццё запомніў, куды не трэба соваць нос. Як ва ўсім гэтым арыентуюцца суддзі? Бо тыя ж катэгорыі гонару і годнасці ў лінгвістаў даволі няпэўныя. Вось што гаворыцца ў Тлумачальным слоўніку пра годнасць: «Значэнне. Самаацэнка ўласнай асобы. Неабходныя маральныя якасці чалавека, а таксама ўсведамленне гэтых якасцей». Усведамленне! Але ж у практыцы кожнага індывідуума і пэўных сацыяльных груп такое ўсведамленне ды самаацэнка розныя!

Ці гонар. Зноў звернемся да Тлумачальнага слоўніка. 1-е значэнне: Гонар — грамадская або маральная ацэнка. Тое, што выклікае ўсеагульную павагу. 2-е: Г. — проста павага з боку некага. Слава (заўважым асабліва!). Нарэшце, 3-е: Г. — перавялічанае(!) уяўленне пра сваю годнасць. Ад лацінскага honor.

Тым не меней суддзі рашуча (асабліва калі справа ідзе пра начальніка) бяруцца распазнаць, сапраўды нехта пацярпеў як асоба ў вачах грамадскасці (ці ў чыіх?), альбо суд мае справу з гіпертрафіраваным, пераболышаным ці нават перакручаным увогуле ўяўленнем некага пра сябе?

Дарэчы, ходзяць упартыя чуткі, што зараз нейкая ўплывовая ва ўладных структурах «группа товарищей» наогул рыхтуе ці то закон, ці то ўказ, па якому высокіх чыноўнікаў увогуле нельга будзе зачапіць крытычным слоўцам. А напіша журналіст — яму адразу кара як за абразу сімвала дзяржавы! Выходзіць, зноў афіцыйна будзе «белая» начальніцкая каста, а астатнія — «чорная костка» — «працоўныя валы»? Але ж калі забароняць пад страхам пакарання свабодна пісаць крытычнае слова ў газетах, непазбежна зноў расквітнее вусная народная творчасць — анекдоты. Памятаеце, як адзін такі трапны анекдот за кароткі тэрмін знішчаў у вачах народа ўсю харызму, усю імператарскую пыху чарговага генсека? Убачыўшы «бацьку народа» па тэлевізары ці ў кінахроніцы, самыя стрыманыя ды асцярожныя людзі, бывала, пачыналі нястрымана рагатаць — іншым разам можна было смела арыштоўваць ды караць амаль усіх у кіназале. Як суддзі рыхтуюцца да падобнай перспектывы? Зразумела, спачатку будуць, вядома, караць за слова напісанае, але ж гэтага вельмі хутка акажацца недастаткова.

— Апошняе пытанне — зноў, даруйце, на тэму духоўнасці. Вярхоўны суд — апошняя інстанцыя, дзе канчаткова вырашаецца лёс чалавека, які трапіў у рукі Феміды. Ці рыхтуюць сябе нейкім чынам вашы калегі да вынясення вердыкту? Як раней, то казалі, быццам некаторыя чыталі творы Леніна ці там Маніфест камуністаў, а нехта канфідэнцыяльна, як цяпер любяць казаць, гутарыў па тэлефоне з адпаведным па рангу функцыянерам ЦК той жа кампартыі, каб вастрыць у сябе пачуццё рэвалюцыйнай законнасці, вядома ж. А цяпер? Можа, нехта чытае Біблію? Моляцца і гутараць з Богам? Пасцяцца? Чытаюць вялікіх філасафаў? Або ўсё адбываецца неяк празаічна? А ўвогуле — каму з падсудных больш шанцуе, так бы мовіць, у вашай інстанцыі?

— Нарэшце, што б Вы пажадалі ў новым годзе сваім калегам — судовым работнікам, а таксама чытачам нашай газеты?

*А гэта мы атрымалі з грыфам Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь:*

## Паважаны *спадар рэдактар!*

**Уважліва азнаёміліся з пытаннямі, адрасаванымі кіраўніку вышэйшай судовай улады рэспублікі. Дзякуй, што Ваша газета праяўляе цікавасць да работы органаў правасуддзя. На жаль, пэўнай згоды на інтэрв'ю «Нашаму слову» ні Старшыня, ні прэсслужба не давалі. Справа ў тым, што да нас звяртаецца з аналагічнай просьбай вельмі шмат выданняў і задаволіць жаданні многіх журналістаў не прадстаўляецца магчымым.**

**Болей таго, ёсць дамоўленасць з адной з цэнтральных рэспубліканскіх газет на інтэрв'ю Уладзіміра Сяргеевіча Каравая па актуальных праблемах пры ажыццяўленні правасуддзя. Не будзем пярэчыць, калі «Наша слова» перадрукуе яго тэкст на сваіх старонках.**

**І некалькі слоў па сутнасці ў адносінах зададзеных пісьмовых пытанняў. Можам Вас супакоіць, што ў Вярхоўным судзе валодаюць роднай мовай, чытаюць тыя беларускамоўныя выданні, у якіх журналісты, у тым ліку і «незалежныя», з высокай адказнасцю, прафесійна асвятляюць не толькі прававыя пытанні, але і праблемы палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага характару. Ёсць шмат выпадкаў, калі судовыя органы абараняюць гонар і годнасць такіх работнікаў, пацвярджаюць дакладнасць і аргументаванасць выкладзеных звестак.**

**Цяпер аб Законе аб мовах, якім мы кіруемся ў сваей дзейнасці. Вярхоўны суд не надзелены афіцыйным правам талкаваць заканадаўчыя акты, аднесеныя да кампетэнцыі Вярхоўнага Савета. А выказваць прыватную думку наконт іх дасканаласці... Гэта можа зрабіць не толькі радавы юрыст, але і супрацоўнік рэдакцыі, і чытач газеты.**

**Пры вынясенні судовых вердыктаў, можам Вас запэўніць, суддзі кіруюцца толькі Законам, ціск на правасуддзе, з чыйго б боку ён ні быў, забараняецца.**

**І ўжо ні ў якім разе пры ажыццяўленні правасуддзя «Феміда» не арыентуецца ні на пачуццё «рэвалюцыйнай законнасці», ні на «божыя малітвы».**

**Падтрымлівайце, калі ласка, сувязь з прэс-службай Вярхоўнага суда. Па магчымасці супрацоўнікаў газеты праінфармуюць па нашых надзённых справах, выніках пэўных судовых пасяджэнняў, прадаставяць іншую інфармацыю, якая зацікавіць «Наша слова».**

**Журналістам газеты жадаем творчых поспехаў, высокай прафесійнай адказнасці за друкаванае слова, здароўя і дабрабыту.**

З павагай
Прэс-сакратар
С.АНТАНОВІЧ.

**Дзякуем, калега спадар Антановіч. Жанчыны з нашай рэдакцыі знайшлі, што Ваш адказ напісаны вельмі цёпла. Толькі вось, на жаль, некаторыя пытанні застаюцца нявысветленымі. І даволі істотныя, на нашу думку. Што ж, будзем спадзявацца, адказы на іх знойдзем у адной з цэнтральных рэспубліканскіх газет. Яшчэ б толькі даўмецца, а каторыя з іх менавіта «цэнтральныя»? Другімі словамі: што тут маюць на ўвазе высокія і шаноўныя юрысты — пэўную палітычную афарбоўку? тыражнасць? прыярытэтнасць у начальства? Хоць мы і так уважліва сочым за прэсай усяго палітычнага спектра, але цяпер асабліва станем пільнымі, каб не пропусціць такую цікавую і важную публікацыю.**

Распытваць спрабавалі Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ і Эрнэст ЯЛУГІН.

ЖЫЦЦЁ МОВЫ

# Удасканаленню — «так», але барані Божа ад рэфарматараў

***...Я ўпэўнены, што зараз граматыку мяняць нельга, бо гэта толькі раз'ядноае народ. Таму лічу, што цяпер у галіне культуры і асветы трэба ўсяляк пашыраць усё сапраўды беларускае, нацыянальнае. Прапагандаваць і ўкараняць усё лепшае, што ў беларускай культуры ўжо ёсць: творы літаратуры і мастацтва, народныя традыцыі, увогуле — яе вялікасць нацыянальную Спадчыну.***

**Мікола Ермаловіч.**
**(«Наша слова», № 32, 1994 г.)**

Вызначуся адразу: я за дзяржаўнасць беларускай мовы, яе хутчэйшае пашырэнне ва ўсіх сферах жыцця, за разумнае ўдасканаленне правапісных нормаў. Адначасова падкрэслю, што моўнае пытанне — балючае пытанне. І вырашаць яго трэба па-дзяржаўнаму і па-чалавечы мудра і абачліва, а не на «ўра» будзёнаўскімі кавалерыйскімі наскокамі ці тымі сумна вядомымі каксагызаўскімі кампаніямі, аб якіх слушна папярэджваў В.Вячорка на II з'ездзе ТБМ. Прыкра, што аматары лёгкіх перамог назусім забылі аксіёму: у моўнай баталіі, што не сыходзіць са старонак перыядычнага друку, не можа быць ні пераможцаў, ні пераможаных. Так, дзяржаўнасць беларускай мовы не павінна ствараць штучных перашкод для выкарыстання іншых. Але ж зараз пад шум-гуд беларускага аднамоўя і барацьбы з русафобіяй ідзе масавае "перакачванне" ў беларускую лексіку паланізмаў і ўкраінізмаў. І беларусы моўчкі заглынаюць прапанаваную нажыўку. Чаму? Вынікі такой маўчанкі не забавяць заявіць аб сабе ў бліжэйшыя ж гады: войкнем, ды будзе позна.

У артыкуле «А мо вернемся да Скарыны?» («Настаўніцкая газета» за 30 верасня 1992 года) мною было выказана сумненне ў мэтазгоднасці рэформы беларускага правапісу, у якой і сёння не бачу патрэбы. Удасканаленню, уніфікацыі правапісу — так, рэформе — не! Клапачуся, каб, як кажуць, пасля мыцця (рэформы) незнарок разам з памыямі не выкінуць і дзіця (мову). Ды каб усім нам не стала задужа мулка ад той колькасці мяккіх знакаў, калі ў адным слове іх можа стаць аж чатыры: бесьперсьпектыўнасьць, бязьзьменнасьць і інш. А чаго вартыя тыя "пляны, глёбусы, клясы, лёгікі, камэдыі, філязофіі, Эўропы, лямантыпэрлямэнты" ды ўся «клясычная мова», якой хочуць засмеціць нашу сённяшнюю мову некаторыя аматары-наватары? Ці не настаў час спыніцца ды перастаць рушыць усё былое «до основанья, а затем...». Здаецца, ужо ж зруйнавалі былыя палітычныя структуры, развалілі дашчэнту эканоміку рэспублікі, засталося хіба толькі «прышчапіць» нам тарашкевіцу ці лацінку, каб беларусы перасталі разумець адзін аднаго. Якая патрэба перавучваць сталых жыхароў краіны, якія з дзяцінства засвоілі напісаныя наркамаўкай выдатныя творы Я.Купалы і Я.Коласа, К.Чорнага і К.Крапівы, І.Мележа і І.Шамякіна, А.Куляшова і П.Броўкі, П.Панчанкі і Я.Брыля, М.Танка і Н.Гілевіча, А.Макаёнка і У.Караткевіча. А хіба ж не яна, наркамаўка, пад белы ручкі ўзвяла на самы вільчык літаратурнага Алімпа-Парнаса шаноўнага Васіля Быкава?

...Жыву роднай мовай з дзяцінства. Нарадзіўся і вырас на Магілёўшчыне, а жыву і працую на Брэстчыне. І ўсюды чуў яе: і ад сваёй маці, і ад маці Аркадзя Куляшова і маёй настаўніцы — Кацярыны Фамінічны Ратабыльскай, і ад самога паэта, калі ён прыязджаў да сваёй маці ў нашу сельскую Елавецкую сямігодку і, здаралася, гутарыў з намі, дзецьмі. Родная мова была са мною і ў Галенскай НСШ, што на Пружаншчыне, дзе я пачынаў свой працоўны шлях, і на Паўднёвым Урале, дзе тры гады служыў у арміі, і ў Колкаўскай сямігодцы (на сумна вядомых Мярлінскіх хутарах, дзе пазней на ваенным палігоне прымянялася атамная зброя), куды лёс закінуў мяне пасля дэмабілізацыі, і ў Рамельскай СШ на Століншчыне, дзе больш трох дзесяткаў год працую настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, падрыхтаваў не адзін дзесятак юнакоў і дзяўчат, што цяпер сталі настаўнікамі роднай мовы. Пераканаы: ніякай карэннай ломкі-рэформы сённяшні беларускі правапіс не патрабуе. Рады, што да такое высновы прыйшла і Дзяржаўная камісія па ўдасканаленні правапісу.

Мне было балюча слухаць па радыё і чытаць у газетах (брэсцкая абласная «Народная трыбуна» за 5 лістапада, «Наша слова» № 46 г.г.) аб тым, як «штарміла» школы №№ 17 і 35 абласнога цэнтра, многія бацькі якіх не пусцілі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы. Дзеці тут ні пры чым, а бацькі хай бы разважылі, што іх нашчадкі будуць жыць у XXI стагоддзі, калі на Бацькаўшчыне матуліна мова будзе гаспадыняй ва ўласнай хаце, а не існаваць беднай Папялушкай. І калі сённяшнія першакласнікі тых школ адчуюць б сябе праз дзесятак год адшчапенцамі грамадства, то ці раз успомнілі б «клапатлівых» бацькоў нелаcкавым для слыху словам. Добра, што ў тым працістаянні перамог здаровы розум, і дзеткі на ўроках чуюць такі беларускую мову... Але баюся, што і нашы правапісныя хістанні падліваюць масла ў агонь.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**настаўнік Рамельскай сярэдняй школы.**
Брэстчына.

*Вечарыны*

# Слухаючы Язэпа Лёсіка

«...Не так тыя ворагі, як добрыя людзі» — кажа прыказка. І многа ліха зазнала Беларусь не ад чужых, а ад сваіх братоў-славян. За часоў польскага панавання ўсе беларускія і шляхецкія станы перафарбаваліся на палякаў. Яны адцураліся ад Беларусі і, жывучы на беларускай зямлі, стараліся ганьбіць і бэсціць усё беларускае, стараліся забыцца, што бацькі іх і дзяды былі беларусы і сваю кроў пралівалі за волю і права сваёй бацькаўшчыны Беларусі. Гэтаксама робяць цяпер нашыя паны і папы, чыноўнікі і настаўнікі, што па царскаму загаду, праз царскія школы параблілся расійцамі. Яны не толькі адракліся ад усяго роднага, беларускага, а яшчэ топчуць нагамі і плююць на тое, што іх дзяды і прадзеды, як святое, шанавалі. Патомкі тых слаўных беларусаў, каторыя некалі мелі сваё магутнае государства, чыя мова горда і смела зычэла на ўсім свеце і карысталася вялікаю павагаю і пашанаю, цяпер кажуць, што народ наш не хоча сваёй мовы, не хоча сваіх школ, што народ беларускі не разумее тае мовы, на каторай гаворыць, што быццам бы ахвотней чытае і лепш разумее па-расійску, або лепей сказаць, па-велікаруску.

Народ... Што значыць народ? Народ цёмны, некультурны, яго трэба навучыць. Як ён можа захацець сваёй беларускай школы, калі ён ніколі яе не бачыў? Як ён можа захацець вучыцца на сваёй мове, калі за яе яго лаялі, бэсцілі, крыўдзілі і за людзей не лічылі? Калі ён пастаянна бачыў, што калі хто гаворыць па-беларуску, той бедны, цёмны, галодны, а хто гаворыць іначай, той багаты, асвечаны і сыты? Народ трэба навучыць, яму трэба паказаць, што покі не запануе ў краю яго наша родная беларуская мова, да таго часу ён будзе бедны, цёмны і галодны. Толькі дэмагог і палітычны шарлатан можа пасылацца на народную цемнату і карыстацца з яе дзеля сваіх поглядаў або інтарэсаў...

Былі адвеку ў нас каты-янычары. Яны звалі сябе беларусамі і душылі ўсё беларускае. Яны намагаліся з навукі давесці, што беларусаў няма, не было і быць не можа, што іх мова не мова, а мешаніна слоў польскіх і велікарускіх. А другія заходзілі з іншага боку і не казалі, што беларускай мовы няма, а казалі, што трэба кінуць сваё і пераймаць расійскую культуру. Гэтых янычараў памятае ўся Беларусь...

Колісь, за часоў незалежнасці Беларусі, народ беларускі быў далёка асвечнейшы за маскоўскі. У той час, як на Маскоўшчыне стаяла страшэнная цемра, у нас панавалі навука, асвета, шырока квітнела грамадзянскае жыццё і ў дзяржаве Беларускай існаваў вольны канстытуцыйны парадак». Гэтыя словы Язэпа Лёсіка, чалавека слаўнага, але трагічнага лёсу, імя якога доўга замоўчвалася, а сёння вяртаецца ў гісторыю беларускага народа, прагучалі ў Доме літаратара на вечарыне, прысвечанай 110-м угодкам з дня яго нараджэння. Надрукаваныя на старонках «Вольнай Беларусі» яшчэ ў 1918 г., тым не менш яны гучаць злабадзённа, як горкі папрок народу і яго «шляхецкаму стану». Паэт Сяргей Законнікаў, які вёў вечарыну, умела захоўваў повязь мінулага з сучаснасцю, засяроджваючы ўвагу на набалелых пытаннях, што «падкінула» эпоха адраджэнцам новай генерацыі.

Са згадкамі пра Язэпа Лёсіка выступілі яго сваякі — Даніла Міцкевіч, сын Якуба Коласа, і Сымон Белы. Навукоўцы Іван Германовіч і Таццяна Процька зрабілі паведамленні на тэмы: «Лёсік — мовазнаўца» і «Той час і Лёсік», а Алесь Жынкін, адзін з самых карпатлівых даследчыкаў біяграфіі і творчага шляху славутага земляка, зацікавіў прысутных сваімі шматлікімі адкрыццямі, адным з якіх стала ўдакладненне даты нараджэння (19 лістапада 1883 г. па новаму стылю), і фільмам-слайдам, прысвечаным яго памяці. У мастацкай праграме выступілі чытальнікі Тамара Ланская і Юрась Авяр'янаў, барды Валерый Пазнякевіч і Алесь Мяснікоў, фальклорны гурт «Дзянніца».

Язэп Лёсік з кагорты той беларускай інтэлігенцыі, што на пачатку XX стагоддзя выступіла ў якасці актыўнай творчай і палітычнай сілы з намерам дабіцца для свайго народа права «людзьмі звацца», адрадзіць яго культуру і мову. Гэта ідэя ў гады ваеннага ліхалецця прывяла Язэпа Лёсіка і яго аднадумцаў у шэрагі змагароў за нацыянальную незалежнасць і правы беларускага народа на сваю дзяржаўнасць. Удалося дамагчыся ва ўмовах нямецкай акупацыі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — Лёсік тады ўвайшоў у склад Рады, а затым стаў яе прэзідэнтам.

У 20-я гады на тэрыторыі БССР Лёсік працуе ў БДУ і Інбелкульце. Галоўныя сферы дзейнасці — педагагічная і навуковая. Многія ў той час лічылі, што нацыянальнае адраджэнне можа працягвацца і ва ўмовах «сацыялістычнай явы» і што камуністычны ідэал не адмаўляе нацыянальны. Што думаў Лёсік — у мінулым сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, а затым Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, дакладна невядома, хоць Т.Процька сцвярджала, што «ён у 20-я гады са сваімі сябрамі таксама верыў у сацыялістычную ідэю». На яе думку, націск савецкай дзяржавы на прыхільнікаў Беларускага нацыянальнага адраджэння бярэ пачатак з Акадэмічнай міжнароднай навуковай канферэнцыі, на якой ставілася пытанне аб пераводзе беларускага правапісу на лацінку. А гэта азначала, што пэўныя сілы (ведама, нацыяналістычныя) арыентуюць Беларусь на Захад, а не на Усход, а гэта нават лічылася горшай крамолай, чым адмаўляць класавы падыход у аналізе сацыяльных з'яў. Цікава, што пры арышце ў 1930 г. Лёсіку было інкрымінавана так званае паланафільства. І сёння, калі хтосьці хоча скампраметаваць ідэю беларускага адраджэння, то выцягвае міф аб пагрозе Беларусі з боку капіталістычнага Захаду. Вось што гаворыцца ў так званых Дадатковых паказаннях Я.Лёсіка ад 2 верасня 1930 г.:

«Полонофильская установка у меня была. Это установка непосредственно вытекала из того понимания белорусского вопроса, которое ему придавали нашенивцы и вообще белорусские социал-демократы. Мы считали себя белорусскими незалежниками. Это значит, нашим политическим идеалом была самостоятельная, независимая Белоруссия. Стремление каждого народа к государственной независимости совпадало с нашим политическим идеалом и поддерживало наши стремления и нашу установку к разрешению белорусского национального вопроса. Литва, Польша, Чехия, Латвия стали самостоятельными государствами, значит, наша установка на независимую Белоруссию правильная. Белоруссия может стать самостоятельным государством. Если Польша, Чехия, Литва не выдержат и потеряют свою независимость, то о самостоятельной Белоруссии и думать не приходится. Если Польша, с ее высокой культурой и сильной государственной традицией, не устоит, то о существовании малокультурной национально несознательной Белоруссии говорить нет никаких оснований, и в таком случае наша политическая установка теряет под собой почву. Отсюда моя защита польской государственности независимо от ее формы, мое стремление оправдать ее и показывать ее в лучшем свете, чем это есть...» (Захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь).

Магчыма, не варта прымаць на веру ўсё, што сказаў Язэп Лёсік на допыце пад прымусам (напрыклад, прызнанне ў паланафільстве). Аднак тое, што ён сапраўды хацеў бачыць Беларусь незалежнай у шэрагу еўрапейскіх краін — гэта факт.

Вядома, чым скончылася ў 30-я гады сталінская «чыстка», што змяла з твару зямлі і Язэпа Лёсіка. Пакутніцкай смерцю загінулі ўсе, хто лічыўся беларускім нацыяналістам, а дакладней — носьбітам нацыянальнай ідэі, да якой мы сёння вяртаемся зноў. Нацыянальная інтэлігенцыя была выбіта. Ацалелая ад рэпрэсій яе меншасць, каб выжыць, стала на шлях канфармізму і дэнацыяналізавалася. Сёння мы маем тое, што маем, калі меркаваць па суадносінах свядомых беларусаў да несвядомых. Выходзіць, што трэба пачынаць усё ад пачатку — ісці па цаліку. І задачы застаюцца ранейшыя: барацьба за дзяржаўнасць, абарона мовы і нацыянальнай сімволікі, аднаўленне гістарычнай праўды, у чым нам дапамагае жыццёвы прыклад Язэпа Юр'евіча Лёсіка.

**Ірына КРЭНЬ.**

*Беларускае замежжа*

# «ПОЛАЦАК» № 6

Нядаўна на Бацькаўшчыне чытачы атрымалі чарговы нумар гэтага часопіса, які выдаецца нашымі суайчыннікамі са Злучаных Штатаў Амерыкі беларускім культурна-асветніцкім цэнтрам у горадзе Клііўлендзе.

Нумар адкрываецца прывітаннямі ўдзельнікам і гасцям XXI сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, накіраванымі рознымі грамадскімі арганізацыямі беларускай дыяспары ў ЗША, а таксама віншавальнымі тэлеграмамі з Беларусі (Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Менскі клуб «Спадчына», Беларускае выдавецкае таварыства «Хата»).

У раздзеле «Наша гісторыя» археолаг Сяргей Тарасаў на прыкладзе старажытнага Полацка знаёміць з асноўнымі этапамі развіцця дэмаграфічнай структуры феадальных гарадоў Беларусі. Артыкул, бясспрэчна, змястоўны, але разлічаны ён на дасведчаных спецыялістаў, таму наўрад ці стане цікавым непадрыхтаванаму чытачу. Куды большы інтарэс павінен выклікаць працяг грунтоўнай аналітычнай публікацыі Уладзіміра Міхнюка і Якава Паўлава «Як знішчалі генафонд беларускай нацыі» (раздзел «З архіваў КДБ»). Аўтары, спасылаючыся на дакументальныя крыніцы, пералік якіх друкуецца тут жа, узнаўляюць жахлівую карціну масавага генацыду супраць беларусаў, ажыццёўленага злачынным бальшавіцкім рэжымам на нашай зямлі ў канцы 20-х—30-х гадоў. А вось вытрымкі са следчай справы «ворага народа» вядомага беларускага нацыянальнага дзеяча Аркадзя Смоліча без адпаведных каментарыяў, дзе б раскрывалася трагедыя гэтага чалавека, у выніку катаванняў на допытах вымушанага ратавацца нагаворам на самога сябе, на ранейшых паплечнікаў, могуць проста заблытаць чытача, збіць яго з панталыку.

У наступным раздзеле «Далёкае і блізкае» змешчаны ўспаміны Юзэфы Найдзюк аб сваёй вучобе ў беларускіх гімназіях, якія працавалі на тэрыторыі Германіі ў першыя пасляваенныя гады, аб удзеле яе ў тагачасным міжнародным руху скаўтаў. Артыкул насычаны вельмі цікавымі фактамі, пададзены ў займальнай, даходлівай форме і таму лёгка чытаецца.

Раздзел «Роднае слова» аб'ядноўвае працы ўспамінаў Міхася Кавыля «Із агню ды ў полымя», эсэ Святланы Белай «Максімава Яраславія», некалькі вершаў эміграцкага беларускага аўтара Анатоля Бярозкі і «Думкі ўслых» — роздум Міколы Лавіцкага і Святланы Анатольевай аб творчасці паэта. Перадапошні раздзел «Карані нашага роду» пачынаецца невялікім артыкулам Людмілы Дучыц «Культ дрэў у беларусаў». Тут жа друкуецца замалёўка Святланы Менскай «Адкуль пайшлі асіны ў Беларусі» — спроба сучаснай мадэрнізацыі старадаўніх народных легенд і паданняў. З успамінамі пра выдатнага кампазітара Міколу Равенскага «Лірнік краіны светлай» выступае Антон Адамовіч.

Жыццё беларускай эміграцыі ў ЗША прадстаўлена згадкамі аб нядаўняй, XXI сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, аб урачыстым святкаванні 24 траўня 1987 года ў горадзе Таронта сямідзесяцігоддзя ўладыкі Мікалая — першага іерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ёсць таксама кароткая інфармацыя аб знаходжанні сёлетнім летам у Вашынгтоне, Нью-Йорку і Клііўлендскім цэнтры «Полацак» групы суайчыннікаў з Беларусі, сярод якіх быў і прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» акадэмік Радзім Гарэцкі.

На заканчэнне адзначым, што «Полацак» выдаецца ўжо новым складам рэдакцыйнай калегіі (галоўны рэдактар Святлана Белая). Часопіс, бясспрэчна, стаў больш змястоўным і разнастайным, выходзіць ён зараз у лепшым мастацкім афармленні. Застаюцца, вядома, пэўныя ранейшыя хібы. Але ж, згадзіцеся, на пераадоленне іх патрэбны немалыя грашовыя сродкі і, галоўнае, час.

**Мар'ян ВІЖ.**

# У Дзень Незалежнасці Латвійскай Рэспублікі

18 лістапада 1994 года ў Дзень Незалежнасці Латвійскай Рэспублікі ў Даўгаўпілсе адбыўся дабрачынны канцэрт нацыянальна-культурных таварыстваў. Спачатку ў вялікай зале Цэнтра латышскай культуры разам са шматлікімі гледачамі, сярод якіх былі кіраўнікі горада, дэпутат Сейма, консул Расіі і іншыя паважаныя людзі, удзельнікі канцэрта ў нацыянальных касцюмах з запаленымі святочнымі свечкамі выканалі дзяржаўны гімн «Діевс, свэці Латвію». Затым творчыя калектывы паказалі, на што яны здольныя. Некаторыя з іх ужо добра вядомыя за межамі Латвіі: латышскі танцавальны ансамбль «Лайма», польскі хор «Прамень», рускі фальклорны ансамбль «Русічы»... Тым больш прыемна было пасля прачытаць у мясцовай газеце «Латгалес Лайкс»: «Найбольшую цікавасць выклікалі калектыў нямецкага таварыства, малавядомы ў горадзе, выступленне яўрэйскага таварыства, прадстаўнікоў беларускай грамады». Ад беларускага таварыства «Уздым» салістка Зінаіда Дзегцярэнка выканала беларускую народную песню «Там шэры конь бяжыць» і аўтар гэтых радкоў прачытаў верш «Абновы». Вельмі дарэчы тут прыйшліся падараваныя Міністэрствам культуры ў час Першага з'езда беларусаў свету два беларускія нацыянальныя касцюмы.

Мясцовае тэлебачанне запісвала гэта відовішча, каб паказаць яго на ўсю Латвію. Аднак па тэхнічных прычынах запіс не атрымаўся, таму было вырашана паўтарыць здымкі ў наступнае святкаванне Дня Незалежнасці Латвіі.

**С.ВАЛОДЗЬКА.**
г.Даўгаўпілс.

ВЕДА

# Што Бог даў...

## Частка I. Пушчы

*(Заканчэнне.)*

*«Розуму на кірмашы не купіш*
*і ў Слаўкаўшчыне не знойдзеш».*
**(Прымаўка.)**

«У старавечныя часы, — піша Аркадзь Смоліч у сваёй «Геаграфіі Беларусі», што ў Заходняй Беларусі мела некалькі выданняў, — бязмала ўся Беларусь была пакрытая бязмежнымі лясамі; як слабы ўспамін аб іх пазаставаліся нашыя цяперашнія пушчы».

8. Як уздзейнічалі лясныя нетры на чалавека, як жыццё ў пушчы адбілася на характары нашых прашчураў? Ці адлюстравалася гэта ў творах нашых пісьменнікаў і паэтаў? Падамо некалькі прыкладаў:

**а) з беларускамоўнай нашай літаратуры**

Максім Багдановіч напісаў верш, у якім ёсць такія радкі:

*Нашых дзедаў душылі абшары лясоў,*
*Не давалі ім жыці праўдзівым жыццём,*
*І яны тыя пушчы звадзілі агнём,*
*Іх кругом падпаліўшы з далёкіх канцоў.*

*І пылалі па нашаму краю лясы,*
*Покуль сонца здалела ўсё ў ім асвяціць;*
*І святлей і прасторней тады стала жыць,*
*А на попеле буйна ўзраслі каласы.*

Пытанне: якія яшчэ творы нашых паэтаў і пісьменнікаў пра лес і пушчу вы ведаеце?

**б) з лацінскамоўнай нашай літаратуры**

*Нейк сярод цьмы гледачоў відовішча тлумнае ў Рыме*
*Я і мае сябры блізка пабачыць маглі.*
*Жосткая бойка ішла між быкамі і людзьмі на арэне...*
*Пушчу прыпомніў тады...*
*Звычку я некалі меў насіцца па дзікіх мясцінах,*
*Нетраў паўночных абшар вабіць і зараз мяне...*

Гэта ўрывак з твора, добра вядомага нашым чытачам. Ён быў напісаны на лацінскай мове і называўся «Carmen de bisontis». Паэма перакладзена на беларускую мову Язэпам Семяжонам (вядомыя два яе выданні), а таксама і Уладзімірам Шатонам. Яго пераклад надрукаваны ў часопісе «Спадчына» №2 за 1991 год, адкуль мы і выбралі пададзеныя вышэй радкі. Уладзімір Шатон імкнуўся «наблізіцца як мага больш да арыгінала і перадаць сэнс кожнага радка, якіх, дарэчы, у «Песні пра зубра» — 1072. Таму можна з паэмы даведацца, дзе ў маладосці жыў аўтар, як ён сябе сам называе, пра якую пушчу піша Мікола Гусоўскі, хто з «пісьменнікаў даўняга Рыма» пісаў пра зубра? Як пераканаецеся, нашу краіну ведалі ўжо старажытныя рымляне. Якія доказы апроч таго вы можаце падаць? Ці маглі яны даведацца пра нашу краіну ад старажытных грэкаў? Адкуль грэкі маглі ведаць пра нашу краіну? З пяці мяркуемых крыніц якая, на ваш погляд, самая верагодная:

1) ад арабскіх купцоў;

2) ад сваіх суайчыннікаў, што неаднойчы плавалі «з грэкаў у варагі»;

3) ад варагаў, якія добра ведалі шлях «з варагаў у грэкі»;

4) з навуковых прац свайго гісторыка Герадота;

5) ад нашых прашчураў, якія бывалі ў рамеяў (так калісь у нас называлі грэкаў)?

**в) з польскамоўнай нашай літаратуры**

*A nasze lasy, to jak koniec świata,*
*Ciemna, wysoka i rozlegla puszcza,..*

Так напісаў Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля) у сваёй паэме «Хадыка». А Максім Лужанін так пераклаў гэтыя радкі:

*А пушча ў нас — там светканчаўся недзе,*
*Вячыстая, высозная, густая...*

Малады асочнік, герой паэмы, вельмі пакрыўджаны, не стрымаўся і забіў крыўдзіцеля. А пасля

*Кулем кінуўся ў пушчу і знік у гушчэчы...*
*У дрымотным гушчарніку пушча схавала.*

Але вельмі скора асочнік зразумеў, што

*«Ад людзей затоішся ў нетры глыбока,*
*А ў сумлення ўсё роўна ты на відавоку,*
*— Не схавацца нідзе!»*

І ён прыйшоў да слуцкага ваяводы:

*«Закуй у кайданы, пашлі мяне на кару,*
*Сумленне толькі вызваль з цяжкіх путаў».*

З героем якога апавядання Якуба Коласа можна параўнаць Сыракомлевага Хадыку? Ці можна рысу характару гэтых двух герояў лічыць нацыянальнай беларускай?

Трыццаць гадоў пражыў у пушчы асочнік Хадыка...

**9. Цікава ведаць**

У кельцкіх плямёнаў, якія насялялі Еўропу ад Нёмана да Атлантычнага акіяна, былі жрацы. Яны называліся друідамі. Каб малады жрэц мог атрымаць права перайсці ў больш высокую сферу святарскай іерархіі, ён мусіў 20 гадоў самотным пражыць у пушчы. За такі доўгі тэрмін жыцця сярод лесу друіды не толькі даведваліся пра ўласцівасці раслінаў, але і знаходзілі пэўнае падабенства пэўных парод з людзьмі, народжанымі ў пэўную пару года. З цягам часу яны склалі нат гараскоп, які называецца гараскопам друідаў.

10. У якім творы польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча распавядаецца пра прыгоды дваіх дзяцей у афрыканскай пушчы («Пан Валадыеўскі», «Патоп», «У пустыні і ў пушчы»)?

**Склаў Здзіслаў СІЦЬКА.**

КУЛЬТУРА МОВЫ

*Павел СЦЯЦКО*

# ЗРАЗУМЕЛАЕ І ЦЬМЯНАЕ

## *Заканамерныя беларускія ўтварэнні і іх штучныя іншамоўныя заменнікі*

Новыя словы ўтвараюцца ў беларускай мове як ад сваіх, спрадвечных, так і ад іншамоўных словаў.

Да іншамоўных асноваў звычайна далучаюцца свае словаўтваральныя сродкі (суфіксы ці прыстаўкі). Шмат такіх утварэнняў бачым і ў «Слоўніку іншамоўных слоў» А.М.Булыкі (Мн., Народная асвета. 1993 г.). У прадмове яго (с.6) чытаем: «У канцы слоўнікавага артыкула за знакам (ромб) змяшчаюцца аднакарэнныя словы, утвораныя ў беларускай мове непасрэдна ад слова, якое тлумачыцца». Тут падаюцца: *абанент — абанентны, абаненцкі; аб'ект — аб'ектавы, аб'ектны; абітурыент — абітурыентка; абзац — абзацавы, абзацік; агент — агенцкі, агенцтва.*

У канцы артыкула «Адміністрацыя» падаецца вытворны прыметнік ад гэтага назоўніка — **адміністрацыйны** (с.13). Ён утвораны ў беларускай мове з дапамогаю актыўнага словаўтваральнага суфікса **-н-**, які далучыўся да асновы назоўніка *адміністрацыя: адміністрацый-н-ы.* Гэта пашыраны ў нашай мове спосаб утварэння прыметнікаў ад іншамоўных назоўнікаў на **-цыя**.

На жаль, у некаторых акадэмічных слоўніках, акрамя гэткага натуральнага слова, падаецца і нематываваны яго дублет *адміністратыўны.* Так, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т.1, 1977, с.154) чытаем: «*Адміністратыўны*, -ая, -ае. Тое, што і *адміністрацыйны*». У «Беларуска-рускім слоўніку» (т.1. Мн., 1988, с.85): «*Адміністратыўны* см. *адміністрацыйны*». Але ж як тады растлумачыць утварэнне гэтага *адміністратыўны.* Дзе яго ўтваральная аснова? Якім словам матывуецца, тлумачыцца яго сэнс? Адказ на гэта не знойдзем. Тым часам як **адміністрацыйны** непасрэдна выводзіцца з **адміністрацыя** і тлумачыцца з дапамогаю яго: «Адміністрацыйны, -ая, -ае. Які мае дачыненне да адміністрацыі» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т.1, с.154).

Нягледзячы на ўсю яго відавочную недарэчнасць, слова *адміністратыўны* знарок уціснулі ў даведнікі 80-х гадоў дзеля рэалізацыі бальшавіцкай ідэі зліцця нацыяў, іх культуры і мовы, для міфічнай «перамогі камунізму». Яно перанесена ў беларускі слоўнік з расейскага, дзе «административный» кваліфікуецца як прыметнік ад «администрация». Напрыклад, у 4-томным «Словаре русского языка» (Изд. 2-е, Мн., 1981, т.1, с.25): «Административный, -ая, -ое; Прил. (прилагательное П.С.) к администрация. Административная должность. Административное взыскание». Гэтае дублетнае формы — *адміністратыўны* — не падавалі, акрамя згаданых, ні ранейшыя, ні пазнейшыя акадэмічныя перакладныя слоўнікі. Так, у «Русско-белорусском словаре» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953, с.16) чытаем: «Административный — адміністрацыйны». У «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962, с.61): «Адміністрацыйна-гаспадарчы — административно-хозяйственный, адміністрацыйна-тэрытарыяльны — административно-территориальный, адміністрацыйны — административный».

У двухтомным «Русско-белорусском словаре» пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1982, т.1, с.22): «Административно — адміністрацыйна; административно-территориальный — адміністрацыйна-тэрытарыяльны; административно-управленческий — адміністрацыйна-кіраўнічы; административно-хозяйственный — адміністрацыйна-гаспадарчы; административный — адміністрацыйны».

Тое самае бачым і ў пазнейшых перавыданнях гэтага слоўніка. Напрыклад, у трохтомным «Русско-белорусском словаре» 1993 года (т.1, с.33) паўторана ўсё тое, што дае Слоўнік 1982 года.

На жаль, наш перыядычны друк і сёння выкарыстоўвае гэтую штучную форму *адміністратыўны.* Напрыклад, у матэрыяле «Па прэзідэнцкай вертыкалі ў новы 1995...» («Літаратура і мастацтва», 18 лістапада 1994 года) чытаем: «Мясцовая ўлада будзе сапраўднай уладай толькі тады, калі яна будзе гаспадаром на сваёй **адміністратыўнай** тэрыторыі, гэта значыць, калі яна будзе валодаць уласнасцю. З гэтай умовы вынікае і безумоўнае абранне прамымі выбарамі мясцовай **адміністрацыі**».

Праўда, далей у тэксце бачым і натуральнае «адміністрацыйны»: «Прэзідэнт прызначае сваіх прадстаўнікоў у **адміністрацыйныя** адзінкі... Калі ж орган мясцовага самакіравання не выканае ў прызначаны тэрмін папярэджанне прадстаўніка прэзідэнцкай вертыкалі, ён звяртаецца ў **Адміністрацыйны** суд, якому належыць права прыняць канчатковае рашэнне».

Дык ці мае форма *адміністратыўная* (тэрыторыя) нейкае іншае значэнне параўнальна з **адміністрацыйная**? Безумоўна, не. Звернемся да тэксту «Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» (Мн.: Полымя, 1994, с.22), дзе ў артыкуле 118 запісана: «Мясцовыя Саветы Дэпутатаў выбіраюцца грамадзянамі адпаведных **адміністрацыйна**-тэрытарыяльных адзінак тэрмінам на чатыры гады».

Гэтае нормы — **адміністрацыйны** — трымаюцца і іншыя аўтарытэтныя выданні. Так, «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (т.1, Мн.: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1993, с.54) падае: «Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі». Не ўбачым штучнае формы *адміністратыўны* і ў 12-томнай «Беларускай савецкай энцыклапедыі». На старонках 115—116 чытаем назвы артыкулаў: «Адміністрацыйнае права», «Адміністрацыйна-кіраўнічыя расходы», «Адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне, падзел тэрыторыі дзяржавы на пэўныя часткі — адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі», «Адміністрацыйная адказнасць». Тое ж і ў выданні «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя» (т.1, Мн., 1978, с.55). Няма гэткага штучнага «адміністратыўны» і ў нарматыўным выданні «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (Мн., 1987). На с.49 бачым толькі *адміністрацыйна-гаспадарчы, адміністрацыйна-тэрытарыяльны, адміністрацыйны.*

Дык ці трэба ажыўляць гэты труп у суверэннай Беларусі?

БЕЛАРУСКАЯ ЛАЦІНКА

# Рукою Аляксандра Акінчыца...

Шэдэўр нашай літаратуры — ананімная паэма «Тарас на Парнасе» — быў і застаецца любімым творам беларусаў. Таму сведчанне — рукапісны спіс паэмы, зроблены Аляксандрам Акінчыцам, нашым земляком. Ён нарадзіўся 9 лютага 1839 года ў вёсцы Сялец Пружанскага павета. У 1856—1861 гадах Аляксандр вучыўся ў Маскоўскім універсітэце на медыцынскім факультэце, а пасля заканчэння вярнуўся ў родныя мясціны і пачаў лекарскую практыку ў мястэчку Шарашова. Акінчыц удзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Карнікі схапілі яго, калі апекаваўся параненымі касіянерамі. Яго засудзілі на 12 гадоў катаргі. Па дарозе ў Нерчынск Акінчыцу з двума таварышамі ўдалося абмануць канваіраў і асесці ў Томску. Адтуль праз Маскву і Пецярбург ён трапіў у Парыж. Там ён узнавіў па памяці тэкст «Тарас на Парнасе» і запісаў яго лацінкаю. Гэты спіс адшукаў Язэп Янушкевіч у аддзеле рукапісаў Ягелонскага універсітэта, пра што напісаў у кніжцы «У прадчуванні знаходак».


122 Pomiž ludziej Taras sturchausia,
I ciskausia sto jon pary;
Až nakoniec taki prabrausia,
I tupic prama da hary.

126 Uliz, hladzic, až chata nowa —
Proč zazwyczaj pański dwor;
I krokom dobryj tyn jatowy —
[illegible]

130 A na dwore tut swinni chodziat,
Sabaki, kozy i barany —
Znać za i baki chaziajstwa widziat,
Kali dzierżat swinnej [illegible].

134 Na kroszy u tronki (*) tut hulajuc
Parnaski chłopcy i dziaciuki;
A kto i kapiejki z ich niemaje —
Tot tupic tolka u szlaki (**)

(*)(**) [illegible] wiejske na Białorusi.

Фотакопію ўрыўка паэмы «Тарас на Парнасе» надаем як узор беларускай лацінкі.

Вам, школьнікі!

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# Сусветная літаратура ў школе

## VI клас

## *Генрык Сянкевіч*

(1846—1916)

***Выдатны польскі пісьменнік-рэаліст Генрык Сянкевіч (Sienkiewicz) нарадзіўся ў вёсцы Воля Акрэйская, што на Падляшшы, у сям'і селяніна-серадняка беларуска-татарскага паходжання. У родным доме будучага пісьменніка шанаваліся патрыятычныя традыцыі, падтрымліваўся культ рыцарскай мінуўшчыны продкаў. Знайшоўшы на гарышчы куфар са старымі кніжкамі, Генрык-падлетак праводзіў доўгія гадзіны за чытаннем твораў Яна Кахаnоўскага, Мікалая Рэя, Пятра Скаргі і іншых творцаў польскага Рэнесансу. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, Сянкевіч вучыўся ў Варшаўскім універсітэце, а ў 1876—1879 гадах падарожнічаў па Паўночнай Амерыцы і Заходняй Еўропе. Першыя яго творы былі напісаны яшчэ ў 1872 годзе; да іх належала аповесць «Упустую», а таксама шэраг апавяданняў. Усе яны, а таксама аповесці «Праз стэпы» (1879), «Сахэм» (1883), «У краіне золата» (1880), адлюстроўвалі падзеі і канфлікты Сянкевічавай сучаснасці. У пачатку 80-х гадоў XIX ст. пісьменнік упершыню грунтоўна звяртаецца да гістарычнай тэмы. Яго трылогія з айчыннай гісторыі — раманы «Агнём і мячом», «Патоп» і «Пан Валадыеўскі» (1883—1888) прынесла аўтару славу аднаго з найбуйнейшых польскіх празаікаў. Тэме барацьбы ранніх хрысціян супраць дэспатызму рымскага імператара Нерона прысвечаны раман Генрыка Сянкевіча «Quo vadis», за які пісьменніку ў 1905 годзе была прысуджана Нобелеўская прэмія па літаратуры. Гісторыя Грунвальдскай бітвы была ўслаўлена Сянкевічам у рамане «Крыжакі» (1900). Пазней Генрык Сянкевіч звярнуўся да жанру сацыяльна-псіхалагічнага рамана («Без дагмату», «Сям'я Паланецкіх», «Віры»). Памёр ён у швейцарскім мястэчку Вэвэй, куды выехаў у часе Першай сусветнай вайны дзеля арганізацыі дапамогі польскім бежанцам.***

***Навела Сянкевіча «Янка-музыкант» у перакладзе на беларускую мову М.Фальскага выйшла асобным выданнем у Кракаве ў 1904 годзе. Шэраг твораў Генрыка Сянкевіча друкаваўся па-беларуску ў 1920-я гады ў заходнебеларускай перыёдыцы. Апавяданні пісьменніка выходзілі асобнай кніжкай у 1955 годзе ў Менску (пераклад М.Машары). Выдатны дзеяч нашай эміграцыі, ксёндз Пётр Татарыновіч пераклаў на нашу мову раман «Quo vadis» (1970).***

Літаратура:

**Гапава В.** Сянкевіч // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т.5. — Мн., 1987.
**Горский И.** Иторический роман Сенкевича. — М., 1966.
**Krzyżanowski J.** Twórczość Henryka Sienkiewicza. — Warszawa, 1973.

*Генрык СЯНКЕВІЧ*

# ЯНКА-МУЗЫКАНТ

Ён з'явіўся на свет кволым слабым дзіцянём. Кумачкі, якія сабраліся каля ложка парадзіхі, круцілі галовамі і над маці і над дзіцем. Каваліха Шыманова, самая разумная з іх, пачала пацяшаць хворую:

— Дайце, — кажа, — запалю над вамі грамнічную свечку; ужо з вас нічога не будзе, мая кума; час вам ужо на той свет выбірацца, трэба па ксяндза паслаць, каб ён вам грахі вашы адпусціў.

— Так, — кажа другая, — а хлопчыка вось трэба зараз ахрысціць: ён і ксяндза не дачакаецца, добра, што хоць нехрысцем не памрэ!

Так гаворачы, яна запаліла грамнічную свечку, потым, узяўшы дзіцянё, пакрапіла яго святой вадой, ад чаго яно пачало жмурыць вочкі, і дадала яшчэ:

— Хрышчу цябе я ў імя айца і сына і святога духа і даю табе імя Ян, а цяпер, душа «хрысціянская», ідзі, адкуль прыйшла. Амін!

Але душа хрысціянская зусім не мела ахвоты ісці зноў туды, адкуль прыйшла, і пакідаць худзенькае цела, — наадварот, яна прымусіла гэтае цела дрыгаць ножкамі і плакаць, хоць так слаба і жаласна, што, як казалі кумачкі, «не разбярэш, хто гэта: кацянё, ці што іншае».

Паслалі па ксяндза. Той прыехаў, зрабіў сваё і паехаў. Хворай палепшала. Праз тыдзень жанчына выйшла на працу. Хлопчык ледзь дыхаў, але дыхаў; толькі на чацвёртым годзе зязюля адкукавала вясной хваробу, дык ён ачуняў і сяк-так дасягнуў дзесяцігадовага ўзросту.

Ён быў заўсёды худы і загарэлы, з уздутым жыватом і з запалымі шчокамі; ільняныя, амаль белыя валасы яго спадалі на светлыя, шырока раскрытыя вочы, якія глядзелі на свет, нібы ўзіраючыся кудысьці ў бязмежную даль. Зімой ён часта сядзеў на печы, ціхенька пахныкваючы ад холаду, а часамі і ад голаду, калі маці не мела чаго пакласці ні ў печ, ні ў гаршчок. Летам ён хадзіў у адной кашулі, падперазанай поясам, і ў саламяным капелюшы, пазіраючы з-пад абарваных палёў яго, задраўшы, як птушка, угару галаву.

Маці, бедная падзёншчыца, якая перабівалася з дня на дзень, як ластаўка пад чужым дахам, магчыма і любіла яго па-свойму, але часта біла і называла «падкідышам». На восьмым годзе ён ужо хадзіў падпаскам за жывёлай, а калі ў хаце не было чаго есці, збіраў грыбы ў лесе. Як яго там ваўкі не з'елі, — аднаму Богу вядома.

Хлопчык быў не вельмі кемлівы і, як вясковыя дзеці, пры размове з чужымі засоўваў палец у рот. Не спадзяваліся нават людзі, што ён вырасце, а тым больш, што маці дачакаецца ад яго якой-небудзь пацехі, таму што і да працы ён быў няздольны. Адкуль гэта ўзялося — невядома, але да аднаго ў яго была вялікая ахвота — гэта да музыкі. Усюды ён яе чуў, а як толькі Янка крыху падрос, дык ні аб чым іншым і не думаў. Пойдзе, бывала, у лес з жывёлай або з кошыкам па ягады, а вернецца без ягад і гаворыць шапялявячы:

— Мамацка, як там у лесе стосьці «іглала...» Ой! Ой!

А маці яму:

— Я табе зайграю! Дачакаешся ты ў мяне.

І, сапраўды, часта яна спраўляла музыку палонікам. Хлопчык крычаў, абяцаў, што больш не будзе, а сам думаў гэтым часам, што там у лесе нешта іграла. Ды што? Ці ж ён ведаў? Сосны, букі, бярозы, івалгі — усё іграла; увесь лес іграў.

І рэха таксама... У полі іграла яму былінка, у садочку каля хаты чырыкалі вераб'і, так што аж вішні калаціліся! Вечарамі ён прыслухоўваўся да ўсіх гукаў, якія толькі можна пачуць у вёсцы, і, пэўна, яму здавалася, што ўся вёска іграе. Калі яго пасылалі раскідаць гной, у яго і вецер у вілах іграў.

Аднойчы, калі ён стаяў з растрапанымі валасамі, прыслухоўваючыся да ігры ветру ў драўляных вілах, убачыў яго наглядчык і, зняўшы папружку, моцна адсцябаў яго. Але і гэта не дапамагло. Людзі называлі яго «Янка-музыкант». Вясной ён уцякаў з дому, каб зрабіць сабе жалейку каля ручая. Ноччу, калі жабы пачыналі квакаць і крычаў у лузе драч, калі гудзелі жукі і пелі пеўні, ён не мог спаць, а ўсё слухаў; і адзін Бог ведае, якую ён, нават у гэтым, чуў музыку. Маці не магла яго нават браць з сабой у касцёл, бо кожны раз, бывала, як зайграюць арганы або заспявае хор, у яго так туманіліся вочы, нібы глядзелі яны з нейкага іншага свету.

Вартаўнік, які хадзіў па вёсцы ноччу і лічыў на небе зоркі, каб не заснуць, або паціху вёў размову з сабакамі, не раз бачыў белую кашулю Янкі, які прабіраўся ў цемры да карчмы. Але не ў карчму ён ішоў, а іменна да карчмы. Там, прытаіўшыся пад мурам, ён слухаў. Людзі танцавалі «абертас»*. Чуўся тупат ботаў, а то раптам які-небудзь хлопец выкрыкваў: «У-га!», або даносіліся галасы дзяўчат: «Ну што ж!» Пелі тоненька скрыпкі: «Будзем есці, будзем піці, будзем весяліцца», а басэтля нізкім голасам падпявала: «Як Бог дасць, як Бог дасць!» Вокны ззялі агнём, і, здавалася, кожная бэлька ў карчме дрыжыць, спявае, іграе, а Янка ўсё слухаў...

Чаго б ён ні аддаў за скрыпку, якая так тоненька іграе: «Будзем есці, будзем піці, будзем весяліцца!» За гэтыя спяваючыя дошчачкі... Але адкуль іх бяруць? Хто іх робіць? Калі б яму хоць адзін раз дазволілі патрымаць у руках штосьці такое!.. Дзе там! Яму можна было толькі слухаць, ды і то да таго часу, пакуль вартаўнік не адгукнецца з цемры:

— Ты пойдзеш дахаты, няшчасны?

Тады ён з усіх сваіх босых ног уцякаў дамоў, а за ім у цемры нёсся голас скрыпкі: «Будзем есці, будзем піці, будзем весяліцца!» і паважны голас басэтлі: «Як Бог дасць, як Бог дасць!»

Калі ўдавалася яму паслухаць скрыпку ці на дажынках, ці на якім вяселлі, для яго гэта было вялікае свята. Пасля гэтага ён залазіў на печ і цэлымі днямі маўчаў, паглядаючы, як кот, блішчэўшымі з цемры вачамі. Потым ён сам зрабіў скрыпку з гонты і конскага воласа, але яна не хацела іграць так звонка, як тая, у карчме. Яго скрыпка ціхенька пілікала, як камар або муха. Аднак ён іграў на ёй з раніцы да вечара, хаця атрымліваў за гэта столькі тумакоў, што ўрэшце стаў падобны на пабіты недаспелы яблык. Але такая ўжо была яго натура. Хлопчык худзеў з кожным днём, толькі жывот у яго быў такі ж вялікі, усё гусцей рабіліся ў яго валасы, шырэй раскрываліся вочы і часцей напаўняліся слязьмі, а шчокі і грудзі западалі ўсё глыбей.

Янка не быў такім, як іншыя дзеці, хутчэй ён быў падобны на сваю скрыпку з гонты, якая ледзь брынчэла. Апрача гэтага, перад новым хлебам ён ледзь не памёр ад голаду, жывіўся толькі сырой морквай і прагай уладання скрыпкай.

Але прага гэта не давяла яго да дабра.

У доме памешчыка была скрыпка, яна належала лакею. У змроку ён часам іграў на ёй, каб спадабацца служанцы. Янка часам падпаўзаў паміж лапушыння да раскрытых дзвярэй буфетнай і стараўся разгледзець скрыпку. Яна вісела на сцяне, насупраць дзвярэй. Уся душа хлопчыка імкнулася да яе, і ён прагна глядзеў на недасягальную для яго святыню, да якой ён не адважваўся дакрануцца. Аднак жа ён вельмі гэтага жадаў. Яму хацелася хоць раз узяць яе ў рукі, прынамсі, разгледзець яе добра. Беднае маленькае сэрца дрыжала пры той думцы ад шчасця.

Аднойчы ноччу ў буфетным пакоі нікога не было. Паны даўно сядзелі за граніцай, дом стаяў пустым, таму лакей значную частку часу праводзіў на другой яго палове ў служанкі. Янка, схаваўшыся ў лапушынні, даўно ўжо глядзеў у адчыненыя насцеж дзверы на мэту ўсіх сваіх жаданняў. Месяц быў круглы і коса свяціў у акно буфетнай, якое адлюстроўвалася ў выглядзе вялікага светлага квадрата на супрацьлеглай сцяне. Квадрат гэты павольна набліжаўся да скрыпкі і, урэшце, асвятліў яе зусім. У цемры хлопчыку здавалася, што ад скрыпкі лунае нейкае сярэбранае ззянне; асабліва ярка былі асветлены выгнутыя часці, яны блішчэлі асляпляльна, і Янка ледзь мог глядзець на іх. У месячным святле ўсё было відаць дакладна: выразаныя бакі, струны і загнутая ручка. Калкі на ёй гарэлі, як светлячкі, а вісеўшы побач смычок здаваўся сярэбраным прутам.

*(Працяг будзе.)*

* Польскі народны танец.

Клуб перакладчыкаў

# ЦІ ДОЎГА ВЫТРЫМАЮЦЬ ЭНТУЗІЯСТЫ?

***На прыканцы мінулага года ў Доме літаратара адбылося пасяджэнне секцыі перакладу Саюза пісьменнікаў сумесна з сябрамі Клуба перакладчыкаў газеты «Наша слова». Былі запрошаны літаратары, якія, працуючы ў галіне перакладу, сталі добра вядомымі не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Прысутнічалі таксама і студэнты, якія спрабуюць свае сілы ў перакладзе. Абмяркоўвалася пытанне: «Скарбы сусветнай літаратуры. Што зроблена?» Вёў пасяджэнне старшыня бюро секцыі пісьменнік Іван Чарота.***

Адкрываючы пасяджэнне, Іван Чарота нагадаў прысутным, што прайшло больш за пяць гадоў, як у выдавецтве «Мастацкая літаратура» існуе серыя «Скарбы сусветнай літаратуры». На жаль, да сённяшняга дня гэтыя выданні для нашых крытыкаў нібыта і не існуюць. З гэтым нельга мірыцца, бо любая праца павінна заўважацца, ацэньвацца.

Васіль Сёмуха, загадчык рэдакцыі перакладной літаратуры выдавецтва, гаворачы пра тое, што зроблена ў серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», сказаў: «Я быў супраць запланаванага размаху: выдаць 100—150 тамоў. У нас няма каму асіліць такі аб'ём. Да ўсяго жывыя кнігі тыя, над якімі перакладчыкі працавалі 2—3 гады. Усе паспешныя працы канулі ў небыццё. Добрых перакладных кніг у нас на сённяшні дзень налічваецца 20—30. Прайшло пяць гадоў і мы перавыдалі ўсё, што варта было перавыдаць. За гэты час выйшла толькі 3—4 новыя кнігі, якія былі зроблены перакладчыкамі ў апошнія гады. Перавыдаўны рэзерв мы вычарпалі, а новых перакладаў няма і ці будуць. Ніхто не хоча брацца за працу, якая патрабуе 2—3 гады і за якую заплацяць цяперашнія два—тры месячныя аклады. Рэдакцыя перакладной літаратуры сёння жыве тым, што ў нас заваляласся ў шафах — было адхілена ад друку. Прыпыніў сваё існаванне зборнік «Далягляды» — ніхто ім не хоча займацца. Гледзячы на ўсё гэта, я не бачу светлых перспектыў для серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», і яна, калі такое становішча, якое склалася, будзе і далей працягвацца, праз пару гадоў памрэ сваёй смерцю.

У 1993 годзе нашу рэдакцыю крытыкавалі, што ў плане шмат перакладаў з рускай літаратуры, а ўжо ў 1994 годзе — што вельмі мала. Памяняліся ўлады і памянялася выдавецкая палітыка».

Іван Чарота зрабіў невялікі экскурс у 1989 год, калі абмяркоўвалася будучая серыя «Скарбаў сусветнай літаратуры». Тады Алесь Разанаў ставіў пытанне: «Чаго нам будзе болей: славы ці няславы?» Супраць паспешлівага выдання серыі выступіў і Сяргей Шупа. Алесь Асташонак лічыў, што перакладчыкі могуць асіліць гэтую працу за 5—6 гадоў, за гэты час падрыхтаваўшы і маладых перакладчыкаў. Яшчэ тады многія звярнулі ўвагу, што ў пададзеным спісе літаратуры для серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» занадта шмат рускіх пісьменнікаў.

Уладзімір Казбярук, дзелячыся сваімі думкамі пра стан перакладчыцкай справы ў Беларусі, сказаў, што ў тых умовах, якія былі ў 1989 годзе, выдаваць «Скарбы сусветнай літаратуры» было цалкам перспектыўна. Цяпер, калі няма тых умоў, трэба шукаць новыя падыходы да гэтай справы. Энтузіясты ў нас ёсць і на іх і далей будзе трымацца выхад «Скарбаў сусветнай літаратуры».

Ірына Шаблоўская, загадчыца кафедры замежнай літаратуры БДУ, звярнулася да перакладчыкаў з просьбай прыкласці ўсе намаганні, каб школьнікі і студэнты, вывучаючы сусветную літаратуру, мелі тэксты ў перакладзе на беларускую мову. Пакуль жа амаль усе замежныя пісьменнікі вывучаюцца на мове суседняй дзяржавы. Праўда, апошнім часам студэнты і выкладчыкі сталі карыстацца матэрыяламі, якія друкуе «Наша слова» ў рубрыцы «Сусветная літаратура ў школе».

У сваіх выступленнях Лявон Казыра, Алесь Яскевіч, Анатоль Верабей, Міхась Кенька гаварылі таксама пра тое самае, што і іншыя, але ў іх было больш аптымізму, чым песімізму, бо яны не толькі самі займаюцца перакладамі, але і рыхтуюць маладых перакладчыкаў з веданнем замежных моў і сваёй роднай.

Падводзячы агульную рысу пад размовай, Іван Чарота яшчэ раз папракнуў нашых крытыкаў, якія амаль не рэцэнзуюць перакладную літаратуру, і зазначыў: «У нас, беларусаў, як гэта ні дзіўна, няма на сённяшні дзень павагі да сябе, да сваёй культуры».

І сёння застаюцца актуальнымі словы Алеся Разанава, сказаныя ім больш як пяць гадоў назад на абмеркаванні будучай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры»: «Чаго нам будзе болей: славы ці няславы?» Пакуль што славы малавата.

**Віктар ШНІП.**

